ЗОК-1
18926

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

## У БАРАЦЬБЕ ЗА ЛЁН

ЖНІВЕНЬ

№ 17 (32)

ПАРТЫЙНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1933

П
243393
86268

# Якія магчымасьці мы маем для павышэньня ўраджайнасьці ільну і паляпшэньня яго якасьці

Лён і каноплі зьяўляюцца культурамі, маючымі выключнае гаспадарчае значэньне для ўсёй народнай гаспадаркі Савецкага саюзу. Чым лепш будзе праведзена ўборка і апрацоўка ільну, чым хутчэй колгасы і аднаасобнікі выканаюць свае абавязкі перад дзяржавай па здачы (продажу) ільнапродукцыі, тым больш і хутчэй тэкстыльная прамысловасьць атрымае сыравіну, а значыць рабочыя, колгасьнікі і працоўныя аднаасобнікі хутчэй і лепшай якасьці атрымаюць тавары, якія гэтая прамысловасьць вырабляе. Такім чынам сваячасовая ўборка, апрацоўка і здача дзяржаве ільнапродукцыі зьяўляецца вялікім крокам у справе выкананьня лёзунгу т. Сталіна— «зрабіць колгасы бальшавіцкімі, а колгасьнікаў заможнымі».

Разьвіцьцё ільнаводзтва ў даваеннай Расіі ва ўмовах дробнай аднасобнай гаспадаркі, якой недаступны колькі-небудзь значныя агротэхнічныя мерапрыемствы, было нязначным. Дастаткова ўказаць на тое, што ў нар-

скай Расіі пасевы ільну займалі ўсяго 925 тыс. **га**, у той час, як у гэтым годзе па Савецкім саюзе пасеяна ільну амаль у тры разы больш—2.510 тыс. **га.** Такое расшырэньне пасеваў ільну стала магчымым толькі дзякуючы быстраму росту саўгасаў і колгасаў і тэхнічнай узброенасьці сельскай гаспадаркі. Колгасы, якія раней засявалі лён па ўсім Савецкім саюзе ўсяго 9 тыс. **га** ільну ўжо ў 1932 г. засеялі 594 тыс. **га.** Таварная продукцыя ільнаводзтва вырасла ў параўнаньні з 1927 г. у два з палавінай разы.

За гады першай пяцігодкі пад ільнаводзтва падведзена моцная тэхнічная база. 189 машына-трактарных станцый абслугоўваюць ільнаводныя колгасы, па ўборцы ільну ў гэтым годзе працуюць каля 12 тыс. ільнацерабілак. Створана новая галіна вытворчасьці ў ільнаводнай гаспадарцы — заводы першапачатковай апрацоўкі ільну, якіх у гэтым годзе будзе 650 замест 2 ільназаводаў у 1928 г. Мы ўжо маем дзесяткі тысяч ільнамялак і машын па абмалоту ільну.

У БССР, дзякуючы неаслабнай і штодзеннай дапамозе Савецкага саюзу, ільнаводзтва таксама карэнным чынам перабудавана і мае вялізарныя посьпехі. Пасеўная плошча ільну павялічылася з 242.462 **га** да 263.179 **га** ў 1933 г. У гэтым годзе на ўборцы ільну працуюць 1.346 ільнацерабілак, 1 902 машыны па абмалоту і ачосу галавак ільну сыстэмы

«Эдзі» і 408 «Гільштэйна». Пабудаваны і працуюць 44 ільназаводы, 3 пеньказаводы, будуюцца яшчэ 32 ільназаводы. У кожным раёне ільнаводзтва працуюць па адной, а ў некаторых нават і дзьве машына-трактарных станцыі. **Савецкі саюз стаў краінай самага буйнага і перадавога на сваёй тэхнічнай узброенасьці ільнаводзтва ў сьвеце.**

Такім чынам на аснове росту саўгасаў і колгасаў і машынізацыі мы дасягнулі вялізарных посьпехаў у галіне расшырэньня пасеўных плошчаў ільну, у той-жа час, у такой перадавай краіне па ільну, як Бэльгія, пасеўная плошча ільну скарацілася за апошнія 6—7 год з 22 тыс. **га** да 13 тыс. **га,** у Германіі з 41 тыс. **га** да 10 тыс. **га.**

Аднак цяпер, калі ільнаводзтва атрымала такую моцную тэхнічную базу, калі пасеўныя плошчы пад ільном дастаткова расшыраны— **нельга цярпець выключна нізкай ураджайнасьці ільну, існуючай зараз.** Дастаткова сказаць, што ўраджайнасьць валакна з 1 **га** ў Латвіі вызначаецца ў 4,8 **ц,** у Францыі — 8,4 **ц,** Аўстрыі 11,2 **ц,** а ў Бэльгіі нават даходзіць да 12,1 **ц.** Наша-ж ураджайнасьць ўсяго два з лішнім цэнтнэра валакна з **га.**

Нізкая ўраджайнасьць ільну зьяўляецца ў першую чаргу рэзультатам надзвычай маруднага асваеньня буйнай ільнаводнай гаспадаркі з яе новай тэхнікай. Мы, апрача таго, зусім недастаткова займаліся і займаемся справай

праполкі, церабленьня і галоўнае апрацоўкі ільну, якая больш, чым у іншай сельскагаспадарчай культуры вызначае высокую ўраджайнасьць. Выкарыстаньне машын у нас пастаўлена яшчэ выключна дрэнна. Між тым мы маем вялізарныя магчымасьці для дасягненьня высокіх ураджаяў ільну (рост саўгасаў і колгасаў, павялічэньне машыннай базы і т. д.).

Дзякуючы разгрому саботажу кулацкіх элемэнтаў у часе збожжазагатовак, узмацненьню колгасаў, росту і згрупаваньню ў іх савецкага актыву, стварэньню політаддзелаў, мобілізацыі шырокіх мас колгасьнікаў вакол лёзунгу т. Сталіна «зрабіць усіх колгасьнікаў заможнымі», пераходу ад сыстэмы контрактацыі да абавязковай пастаўкі збожжа пасьпяхова праведзена веснавая сяўба. Позыцыі аднаасобнай гаспадаркі пераможаны ва ўсіх асноўных раёнах Савецкага саюзу і поўная перамага колгаснага ладу ў вёсцы забясьпечана. У выніку ўсяго гэтага мы цяпер маем усе ўмовы для павышэньня ўраджайнасьці ільну, ператварэньня БССР у перадавую рэспубліку па ільнаводзтву, датэрміновага выкананьня здачы ільнапродукцыі дзяржаве і поўнага забесьпячэньня сыравінай тэкстыльнай прамысловасьці.

За выраштэньне гэтых задач нам трэба змагацца ўсімі сіламі і сродкамі, не пакладаючы рук.

## Якія асноўныя вынікі сяўбы ільну ў гэтым годзе

На аснове ўмацаваньня колгасаў і мобілізацыі колгасных мас вакол лёзунгу т. Сталіна— **зрабіць колгасы бальшавіцкімі, а колгасьнікаў заможнымі,** у рашучай барацьбе з кулацкім саботажам, разгортваючы соцспаборніцтва з Заходняй вобласьцю, колгасы і аднаасобнікі БССР **выканалі плян сяўбы ільну лепш і раней, чым у мінулым годзе.** Засеяна 263.179 **га** ільну і 28.065 **га** канапель. Плян пасеву ільну выканан на 100,3 проц.

Сяўба ільну скончана на 12 дзён раней, чым у мінулым годзе пры значна лепшай апрацоўцы зямлі і большым ужываньні агротэхнічных мерапрыемстваў. Упяршыню засеяна 6.900 **га** сартавога і звыш тысячы **га** ільну звышраньняга пасеву. На вопыце веснавой сяўбы гэтага году колгасьнікі і аднаасобнікі пераканаліся ў тым, што раньняя сяўба ўсіх культур і ў тым ліку ільну, дае значна лепшыя ўсходы і больш высокую ўраджайнасьць.

Вось, напрыклад, што расказваюць у сваім пісьме колгасьнікі колгасу «Ударнік», Александрыйскага с/с, Шклоўскага раёну, аб тым, як яны сеялі лён ў гэтым годзе:

> «Наш колгас «Ударнік» першым у раёне пачаў сяўбу ільну. Яшчэ 8 красавіка, як толькі зышоў сьнег, мы пасеялі **5 га** ільну звышраньняга пасеву...

З нас тады ўсюды сьмяяліся. Кулак тут пачаў весьці шалёную агітацыю.

«Куды вы кідаеце дабро, яно згіне і нічога не атрымаеце»—такія гутаркі мы чулі і сярод адсталых колгасьнікаў.

Будучы цьвёрда ўпэўнены ў сваёй перамозе, мы далі адпор усім гэтым «дзедаўскім» і кулацкім традыцыям і засеялі 5 **га** ільну звышраньняга пасеву.

Паглядзець зараз на нашы палі—нейк цудоўна. Ня верыцца, каб вырас такі лён. Нябывалая справа ў нашым раёне, каб у першых лічбах ліпеня лён дасягаў такой велічыні, як у нас. Ён ужо зараз **дасягае вышыні ў 80—90 см. Амаль з мэтр.**

Апрача звышраньняга мы засеялі 35,6 **га** раньняга ільну. Гэта складае 37 проц. нашага яравога пасеву».

Колгасьнік-ударнік Кулíковіч Андрэй, з Крупскага раёну, аб раньняй сяўбе ільну расказвае наступнае:

«Лён мы засеялі 4-га красавіка. Я сам яго сеяў па гразі. Паасобныя колгасьнікі з недавер'ем гаварылі, што ўсёроўна лён ня ўзойдзе, прападзе. Праз два дні пасьля пасеву выпаў сьнег, сталі марозы. Кулацкая хлусьня яшчэ больш узмацні-

> лася. 26-га красавіка мы пайшлі глядзець лён і аказваецца, што ён не прапаў, а ўзышоў як шчотка».

Аднак было-б зусім няправільна і нявартa бальшавікоў пераацэньваць гэтыя посьпехі ў пасевах ільну. Ня трэба ні ў якім выпадку забываць таго, што **правядзеньне сяўбы зьяўляецца толькі першым крокам у барацьбе за павышэньне ўраджайнасьці**—гэтай цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі.

Вопыт мінулых гадоў з усёй яскравасьцю паказвае нам, што нават пры добра праведзенай сяўбе шмат якія колгасы і аднаасобнікі не атрымалі высокага ўраджаю толькі таму, што выключна дрэнна быў арганізаваны догляд за пасевамі ільну, што надзвычай вялікія страты былі ў працэсе ўборкі і апрацоўкі ільну: праполка не праводзілася, спазьняліся з церабленьнем ільну, на сьцелішчах лён пералежваўся, мяцьцё і тропка праводзіліся дрэнна. З прычыны недастатковай клясавай пільнасьці паасобных партыйных ячэек і колгасьнікаў не абышлося і без прамога шкодніцтва з боку кулацкіх і іншых антысавецкіх элемэнтаў (факты па Сеньненскім, Сіроцінскім і інш. раёнах).

**Выключна ганебныя ўрокі мінулага году па ўборцы, апрацоўцы і загатоўцы ільну яшчэ далёка ня поўнасьцю ўлічаны нашымі партыйнымі, савецкімі і колгаснымі арганізацыямі.**

Першынства ў соцспаборніцтве з Заходняй вобласьцю па сяўбе ільну дасталося Заходняй вобласьці. Мы ў сяўбе гэтай важнейшай культуры адсталі. У нас ня былі скарыстаны ўсе наяўныя магчымасьці для таго, каб лён пасеяць значна раней (сяўба была расьцягнута на 40 дзён, у раньнія тэрміны засеяна толькі 30,5 проц. пляну). Такія раёны, як напрыклад, Гарадоцкі, Бешанковіцкі, Сіроцінскі і рад іншых ня выканалі пляну пасеву ільну. Праца ў колгасах ільнаводных раёнаў яшчэ арганізавана дрэнна, не ўмацавана дастаткова роля вытворчай брыгады і слаба ўцягнута ў колгасную працу колгасьніца.

Даныя аб ходзе ўборкі ільну і канапель і аб падрыхтоўцы да апрацоўкі і загатовак ільну сьведчаць аб тым, што ўрокі мінулага году сапраўды дастаткова і поўнасьцю ня ўлічаны яшчэ і зараз. Становішча работы ў галіне ільнаводзтва яскрава пацьверджае правільнасьць наступнай ацэнкі данай VII пленумам ЦК і ЦКК КП(б)Б.

> «Гэтая вясна яшчэ ня стала да канца пераломнай у сэнсе адносін да ільну, як адной з вядучых культур у рэспубліцы. У рабоце партыйных, савецкіх, зямельных і комсамольскіх організацый, МТС яшчэ не ўдзяляецца неабходная ўвага культуры ільну і канапель і, у першую чаргу, у ільнаводных раёнах».

Вынікі сяўбы ільну неабходна рашуча замацаваць далейшай работай па апрацоўцы і здачы гэтай культуры дзяржаве. Нам неабходна абавязкова дабіцца таго, каб поўнасьцю ўлічыўшы ўрокі мінулага году, на аснове бязьлітаснай барацьбы з кулацкім сабатажам, далейшага ўмацаваньня колгасаў, зьніштажэньня страт ва ўраджаі ільну (лепшыя расьсьцілка, мочка і апрацоўка) разгарнуць сапраўды бальшавіцкую барацьбу за выкананьне пасеўшчыкамі ільну і канапель сваіх абавязацельстваў па контрактацыйных дагаворох. Трэба стварыць рашучы пералом у адносінах да ільну, забяспечыць справу ільнаводзтва штодзеннай увагай і клапотамі партыйных, комсамольскіх, савецкіх арганізацый і політаддзелаў МТС, нараўне са збожжавымі культурамі і бульбай.

## Як павінны быць праведзены цераб-леньне і расьсьцілка ільну

Цераблeньне ільну ў БССР ужо разгарнулася па ўсіх раёнах. Па радзе раёнаў і колгасаў лён звышраньніх і раньніх пасевеў ужо выцераблен.

Адным з рашаючых мерапрыемстваў, якое вызначае сабой высокую ўраджайнасьць ільну, зьяўляецца своечасовы пачатак цераблeньня і правядзеньне яго ў самыя сьціслыя

**тэрміны, каб ні ў якім выпадку не дапусьціць перастою ільну,** г. зн. не дапусьціць страт ураджаю.

Райкомы КП(б)Б, райвыканкомы, політаддзелы МТС, усе колгасы і працоўныя аднаасобнікі павінны рашуча дабівацца выкананьня дырэктыў партыі і ўраду аб уборцы, апрацоўцы і здачы ільну дзяржаве.

У кожным колгасе павінны быць устаноўлены каляндарныя тэрміны церабленьня ільну на паасобных вучастках, выходзячы з тэрміну пасеву ільну на гэтых вучастках. Церабленьне трэба праводзіць **у раньняй жоўтай сьпеласьці,** бо пазьнейшыя тэрміны церабленьня зьніжаюць ураджайнасьць, ільнавалакна прыблізна на 20 проц.

Церабленьне сэлекцыйнага, г. зн. сартавога, ільну трэба праводзіць уручную і выключна ў поўнай насеннай сьпеласьці.

Задача брыгадзіра колгасу і старшыні праўленьня—уважліва сачыць за пасьпяваньнем ільну для таго, каб не празяваць раньняй жоўтай сьпеласьці і адразу прыступіць да церабленьня. Па аднаасобным сэктары за пасьпяваньнем ільну і організацыяй своечасовага церабленьня павінны сачыць і несьці адказнасьць упаўнаважаныя дзесяцідворак і члены сельсаветаў.

**Церабленьне ільну неабходна правесьці ў самы кароткі тэрмін, ня больш 8—10 рабочых дзён,** праводзячы церабленьне асобных

вучасткаў па меры іх высьпяваньня, не чакаючы сьпеласьці ўсіх пасеваў ільну і ні ў якім выпадку не дапускаючы перастою ільну на корані.

У кожным колгасе, пад адказнасьць старшыні праўленьня і брыгадзіраў, павінна быць абавязкова ўстаноўлена прыёмка праз бракеражныя комісіі якасьці работ па цярабленьні ў залежнасьці ад чыстаты церабленьня, адбору снапоў па іх даўжыні і правільнай сушкі снапоў.

Зусім правільна гаворыць ільнацерабільшчыца колгасу «Акцябр», Полацкага раёну, т. Дубоўская Алёна:

> «Які-б добры лён ня вырас, усёроўна сярод яго будзе лён і маленькі, так званы падсадак. Таму нельга ўвесь лён складаць у адно месца. Яго патрэбна сартаваць ўжо пры церабленьні, ні ў якім разе ня зьмешваючы дробнага ільну з буйным. Вышэйшы лён трэба складаць у адзін сноп, дробны—у другі. Церабіць іх патрэбна таксама кожны ў паасобку.
>
> Хто-небудзь засьмяецца—скажа «дробязь». Не, ня дробязь. Мы павінны змагацца за кожнае каліва, бяз страт правесьці ўборку. А маленькі, ценькі

лянок, трэба ведаць—дае высокай якасьці валакно. Гэта дадатковыя мэтры мануфактуры, якія ў нас звычайна выкідваюцца на вецер».

Колгас **«Авангард»**, Камышанскага с/с, Лёзьненскага раёну, рыхтуецца ўзорным парадкам правесьці церабленьне ільну. Старшыня гэтага колгасу **т. Казлоў Анісім** расказвае наступнае.

«Церабленьне ільну пачнем пры раньняй жоўтай сьпеласьці. Ня будзем чакаць, пакуль ён увесь пажаўцее, а будзем убіраць па меры пасьпяваемасьці і скончым за 6—7 дзён. Пры церабленьні ільну мы будзем пільна сачыць, каб ён складаўся ў маленькія пучкі па сартох: даўгі да доўгага, кароткі да кароткага. Працаваць па церабленьні будзем толькі групамі па 3—4 чалавекі. Кожная колгасьніца ўжо ведае свой вучастак і нормы выпрацоўкі. Церабленьне ільну будзем вытвараць уручную. Ільнацерабілкі «Комсамолка» ў нас няма. Малаціць галоўкі будзем машынай «Эдзі»—у нас іх дзьве. Абмалот і расьсьцілку ільну скончым да 18 жніўня. Рабочай сілы ў нас для гэтага дастаткова. На ўборцы, абмалоце і расьсьцілцы будуць працаваць і мужчыны».

Выключнай важнасьці справай зьяўляецца правільнае скарыстаньне ільнацерабілак і іншых машын па ўборцы. У кожнай МТС і колгасе неабходна **распрацаваць нормы выпрацоўкі на ільнацерабілках, выбраць належныя плошчы, прыгодныя для цярабленьня машынамі, і галоўнае—забясьпечыць кожную машыну добра падрыхтаваным і праверапым машыністам.**

Ліпеньскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б пастанавіў:

> «Абавязаць Райкомы ўстанавіць прымацаваньне да кожнай машыны комуністаў і комсамольцаў, якія павінны забясьпечыць поўную нагрузку машын і іх правільнае скарыстаньне».

Да гэтага часу ў нас справа са скарыстаньнем і асваеньнем машын па цярабленьні ільну абстаіць надзвычай дрэнна. Не абыходзіцца і бяз шкодніцтва.

Нам трэба больш шырока распаўсюджваць вопыт лепшай работы ільнацерабілак, дабіцца таго, каб машыны поўнасьцю былі нагружаны і выконвалі нормы выпрацоўкі. **Справа залежыць не ад машын, а ад тых хто на іх працуе.** Аб гэтым яскрава сьведчыць прыклад работы т. **Басава**, трактарыста Маркоўскага вучастку Бежыцкай МТС—перадавога раёну, які пад кіраўніцтвам МК УсеКП(б) дабіўся вялікіх посьпехаў у разь-

віцьці ільну. Вось што расказвае т. Басаў на старонках «Праўды» ад 26 чэрвеня г. г.

«У 1932 г. я ўпяршыню стаў працаваць на ільнацерабілках Люберэцкага заводу сыстэмы «Комсамолка». Работу гэтай машыны ні ў якім разе нельга зраўняць з ручным церабленьнем, вось якія яе перавагі.

Для абслугоўваньня дзьвюх зьмен на ільнацерабілку патрабуецца 6 чалавек, а выцярэблівае яна да 3-х **га**, а для таго, каб ручным спосабам выцерабіць тры **га** патрабуецца ня менш 20 чалавек, значыць «Комсамолка» палягчае і скарачае работы ў тры разы.

Праўда, у першы час, калі я быў перакінут з трактара на ільнацерабілкі мне не ўдавалася выпрацоўваць норму. Тым больш, калі колгасьнік першы раз садзіцца на гэтую машыну без дастатковай практыкі, ён бязумоўна з ёй не спраўляецца.

Калі я добра азнаёміўся з ільнацерабілкай, з усімі яе часткамі, я стаў у адну зьмену (10 гадзін) выцярэбліваць 1,15—1,20 **га.**

Ільнацерабілка «Комсамолка»—машына капрызная і галоўнае патрабуе за сабой догляд. Кожныя 2 гадзіны трэба яе

на 10—15 мінут спыняць і правяраць ролікі, рабіць змазку.

Бываюць такія трактарысты, якія цэлы дзень працуюць і ні разу ня змажуць машыну. За машынай патрэбна вока. Калі нагляду няма, што-небудзь абавязкова здарыцца.

Як лепш усяго церабіць на «Камсамолцы». Патрэбна заяжджаць плошчу гектара на 2—3. Заяжджаць навакол і ня кідаць вуглоў. Абавязкова выцерабіць сярэдзіну, на вуглох павінен напамінаць васьмёрку.

Наогул, скажу, чыстата, тэмпы і якасьць работы на ільнацерабілках «Комсамолка» залежыць ад трактарыста і колгасьніка, абслугоўваючых гэтую машыну».

У радзе раёнаў мы маем яўную недаацэнку ролі машын пры ўборцы ільну, колькасьць якіх з кожным годам усё больш і больш павялічваецца. Таму машыны і ў прыватнасьці ільнацерабілка «Комсамолка» зусім недастаткова скарыстоўваюцца. Вельмі пашыраны шкодніцкія размовы аб нібыта няпрыгоднасьці ільнацерабілак сыстэмы «Комсамолка». Вопыт работы т. Басава бліскуча абвяргае такія размовы і сьведчыць аб тым, што кожная машына, на якой умела і ўдумліва працаваць, можа даваць вялікія рэзультаты.

Поўнае скарыстаньне машын трэба **ўмела спалучыць з арганізацыяй ручной працы.** Нельга забываць тое, што большую частку ўраджаю прыдзецца ўбраць і апрацаваць ручным спосабам. Пытаньні арганізацыі працы па ўборцы і апрацоўцы ільну набываюць выключна вялікае значэньне. Добрая пастаноўка ўжываньня агротэхнікі можа даваць зусім нязначныя вынікі, калі будзе дрэнна арганізавана праца на рашаючым вучастку колгаснай вытворчасьці—у колгаснай брыгадзе.

Пры арганізацыі працы па ўборцы і апрацоўцы ільну трэба добра ўлічыць спэцыялізацыю і навыкі, якія набылі колгасьнікі і колгасьніцы ў галіне ільнаводзтва, і ў адпаведнасьці з гэтым расставіць сілы. **Вопыт і навыкі работы колгасьнікаў і колгасьніц па ільнаводзтву трэба шырока скарыстаць і перадаць яго астатнім колгасьнікам і колгасьніцам.**

Гэта зьяўляецца адной з важнейшых умоў пасьпяховага правядзеньня церабленьня і апрацоўкі ільну.

У мэтах адбору высокаякаснага ільнанасеньня трэба пры церабленьні абавязкова **адабраць лепшыя вучасткі пасеваў ільну з тым, каб абмалот з іх праводзіць асобна ад усяго ўраджаю ільну.** Па гэтым пытаньні ёсьць спэцыяльнае ўказаньне VII пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б.

Абмалот галовак ільну трэба праводзіць праз 5-7 дзён пасьля церабленьня, поўнасьцю скарыстаўшы ўсе лепшыя спосабы прасушкі, як напрыклад у бабках, шатрох і інш.

Поўнасьцю павінен быць забаронен абмалот галовак ільну на збожжавых малатарнях.

Выключна адказнымі, аказваючымі вялізарнейшы ўплыў на ўраджайнасьць, момантамі зьяўляюцца **расьсьцілка і мочка ільну**, якія трэба праводзіць адразу пасьля абмалоту.

Праўленьні колгасаў і сельсаветы павінны ўжо зараз, дасканальна ўлічыць і падрыхтаваць месцы для расьсьцілкі ільну па колгасах і аднаасобных гаспадарках, скарыстоўваючы для расьсьцілкі ў першую чаргу сенажаці і канюшынішчы, якія не адведзены для пасеву ільну ў будучым годзе.

Самым рашучым чынам павінна быць забаронена пакіданьне ільнянай саломы для зімовай і веснавой расьсьцілкі. Расьсьцілку і замочку неабмалочанага ільну і канапель таксама трэба рашуча забараніць.

Трэба загадзя падрыхтаваць і адрамантаваць мачыльныя ямы з тым, каб не дапускаць капаньня новых ям на іржавых глінах. Паводле рашэньня VII пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б трэба правесьці абавязковую мочку палепшаным (Пскоўскім) спосабам ня менш 30 проц. усёй саломы ільну, якая падлягае мочцы.

243393

У мінулым годзе былі вялікія страты ад нездавальняючай якасьці расьсцілкі і мочкі. Гэтага цяпер ні ў якім разе дапусьціць нельга. Праўленьні колгасаў і сельсавет абавязаны ўстанавіць **сыстэматычную праверку работы кожнай брыгады па расьсцілцы і мочцы,** установіць на кожны вучастак сьцелішча або мачыльную яму, дасканалы ўлік часу расьсцілкі або мочкі і забясьпечыць штодзеннае назіраньне за ходам вылежкі і мочкі. Для гэтага трэба браць кожны дзень пробу аб якасьці вылежкі, мочкі, **не дапускаючы нералежкі ільну на сьцелішчах і ў ямах.**

Старшыня колгасу **«Авангард»,** Камышанскага с.-с., Лёзьнянскага раёну—Казлоў Анісім расказвае наступнае аб сваім колгасе:

> «Мы ўжо падрыхтавалі сьцелішча. Слаць будзем лён па сухадольных лугах і канюшынішчы. Па брыгадах у нас вылучаны адказныя за лён—старыя вопытныя ільнаводы—старыкі Казлоў Міхась і Падпаяскін Пятрок. Яны будуць сачыць за ўсімі процэсамі ўборкі і апрацоўкі ільну. Апрача гэтага ў часе расьсцілкі гэтыя адказныя колгасьнікі будуць наведваць сьцелішчы і пільна сачыць, каб лён не пераляжаўся. Сушыльна-мяльных пунктаў у нас 6, на якіх будуць працаваць 6 трохвальных мялак. Еўні дровамі забясьпечаны яшчэ

з зімы. Ураджай мы ў гэтым годзе атрымаем высокі.

Выклік бежыцкіх колгасьнікаў і колгасу «Ударнік», Шклоўскага раёну, на ўсесаюзнае спаборніцтва, на лепшую ўборку, хутчэйшую апрацоўку і датэрміновую здачу продукцыі дзяржаве — прымаем.

Колгас «Ударнік» узяў на сябе абавязацельства атрымаць з аднаго **га 3 ц** ільнавалакна і здаць дзяржаве сартовую продукцыю № 14. Абгаварыўшы гэтае пісьмо мы ў сваю чаргу **абяцаем партыі і ўраду атрымаць з аднаго га, 4 ц ільнавалакна і здаць дзяржаве валакно № 14—16. Гэты пачэсны абавязак мы** выканаем у што-б там ні стала.

18 жніўня мы організуем масавы чырвоны абоз з ільнанасеньнем. Да 25 кастрычніка поўнасьцю скончым апрацоўку і здачу ільну дзяржаве.

Выклікаем усе ільнаводныя колгасы раёну пасьледваць нашаму прыкладу».

Вопыт работы колгасьнікаў Бежыцкага раёну Маскоўскай вобласьці і выклік Бежыцкага райкому, палітаддзелаў і райвыканкому на социялістычнае спаборніцтва ўсе ільнаводныя раёны шырока абмяркован у многіх колгасах БССР. На старонках нашых газэт ужо адгукнуліся колгасьнікі колгасу «Удар-

нік», Шклоўскага раёну, колгасу імя «Дзяржынскага», Полацкага раёну, і шмат іншых. Яны абмеркавалі вопыт работы бежыцкіх колгасьнікаў і ўзялі на сябе конкрэтныя абавязацельствы па лепшым правядзеньні ўборкі ільну, апрацоўцы і датэрміновай здачы высокаякаснай ільнапродукцыі дзяржаве.

Заслугоўвае вялікай увагі расказ т. Юшкевіча Сьцяпана—брыгадзіра трэцяй брыгады колгасу «Акцябр» Полацкага раёну:

> «З даўніх год павялося так, што лён у нас не малацілі, а абразалі галоўкі спачатку касой, каб падраўняць сноп, а потым нажамі такімі, што завуцца «лапай». Дрэнны гэты дзедаўскі спосаб. Каля 20 проц. ільнаваложна выкідваецца ў адыходы. Што-ж рабіць? Машынай «Эдзі» малаціць найлепш. Але яна ў нашым колгасе толькі адна. І хоць мы пастараемся скарыстоўваць яе круглыя суткі, аднак усёроўна з малацьбой ільну на адной толькі машыне ня справімся. І таму мы мяркуем абрэзку галовак, якая зьяўляецца простым псаваньнем ільну, замяніць абіваньнем пранікамі. І гэта дзедаўскі спосаб, але ня шкодны, хоць і марудны. За тое тут могуць працаваць жанчыны і падлеткі.
>
> Сьцелішча мае вялізарнейшае значэньне ў справе павышэньня якасьці ільну. Мы расьсцелем лён на сухадоль-

ных сенажацях. У канцы ліпеня пачнем церабленьне, у першыя дні жніўня пачнем слаць. Гэта—цёплыя дні. А цёплыя дні для лежкі ільну найлепшыя. Раса жнівеньская апрацоўвае лён як шоўк. Выйдзе лён мяккім, залацістым.

Але патрэбна сачыць, каб лён не пераляжаў, каб вылежаўся ў норму. Штодзень за ім трэба наглядаць, а калі і два разы на дзень схадзіць на сьцелішча.

Мы дамо ў гэтым годзе дзяржаве лён высокай якасьці і ў самыя раньнія тэрміны. Не адстанем ад бежыцкіх колгасьнікаў, уступіўшы з імі ў соцспаборніцтва».

Цэнтральны орган нашай партыі «Правда» зрабіла надзвычай каштоўную справу, паказаўшы вопыт перадавога Бежыцкага раёну, які пад кіраўніцтвам Маскоўскага комітэту партыі дабіўся значных посьпехаў у барацьбе за разьвіцьцё колгаснага ільнаводзтва. Гэты вопыт, перанесены ў іншыя раёны Савецкага саюзу і ў прыватнасьці ў БССР, павінен значна дапамагчы хутчэй і лепш правесьці ўборку, апрацоўку і здачу дзяржаве высокаякаснай ільнапродукцыі.

Вось, напрыклад, старшыня колгасу «Остречена», Бежыцкага раёну, т. Куляшоў на старонках «Правды» раскзвае наступнае аб апрацоўцы ільну:

«Справа падыходзіць да ўборачнай кампаніі. З 25 чэрвеня ў нас распачынаецца сенакашэньне. Да гэтага мы зусім гатовы. У гэтым годзе мы пастарэмся ўсямерна скараціць тэрміны касьбы, каб хутчэй прыступіць да церабленьня ільну. У нас месца ўзгаркаватае і калі лён перастаіць, ён бязумоўна згарыць.

Пачнем мы ўборку ільну бязумоўна з тых вучасткаў, дзе пасеяны звышраньні лён. Яго ў нас каля 3-х **га.**

Асаблівую ўвагу думае наш колгас сёлета ўдзяліць расьсьцілцы і лежцы. Гэтая важная справа ў нашым колгасе, ды і ня толькі ў нас, да гэтага часу ішла без неабходнага назіраньня, не арганізавана.

Самы спрыяючы час для лежкі—гэта жнівень. Жнівеньскія росы вельмі добра дзейнічаюць на лён. З майго ўласнага вопыту я ведаю, што ў жніўні лежка працягваецца ня больш 2—3 тыдняў. Самыя прыгодныя месцы для лежкі—канюшынішча і гладкія лугі. Расьсьцілаць лён трэба ўмела. Расьсьцілка, скажам, тоўстым слоем вельмі шкодна. Слой павінен быць тонкі, каб былі прагаліны.

Якасьць ільну залежыць ад нас самых. Ня ўсе колгасьнікі працуюць аднолькава, скажам, напрыклад, адна трапальшчыца трэпле так, што лён блішчыць як

шоўкавы, а ў другой, побач стаячай, ён церкаваты, з асакой. Ад чаго гэта атрымліваецца. Кожны імкнецца выпрацаваць не паўтара, а 2—3 працадні. Гэтым мы самі б'ем па якасьці.

Я раю абавязкова ставіць пры апрацоўцы ільну сартоўшчыкаў».

Падачныя факты яскрава сьведчаць аб тым, наколькі важнай справай зьяўляецца расьсьцілка, мочка і іншыя працэсы апрацоўкі ільну.

Нам трэба дабіцца таго, каб партыйныя, савецкія, комсамольскія і зямельна-колгасныя організацыі, усе колгасьнікі і працоўныя аднаасобнікі рашуча ўзмацнілі сваю ўвагу да пытаньняў, расьсьцілкі і мочкі ільну, асабліва да сваячасовага пад'ёму трасты. **Няправільная расьсьцілка і мочка, пералежка ці перамочка ільну рэзка паніжаюць якасьць ільнавалакна і тым самым зводзяць на нішто працу колгасьнікаў, затрачаную ў пэрыод сяўбы і церабленьня ільну.**

## Як організаваць далейшую работу (сушка, мяцьцё і трапаньне), каб атрымаць лепшай якасьці лён

Усе наступныя працэсы апрацоўкі ільну (сушка, мяцьцё і трапаньне) павінны быць падначалены вырашэньню асноўнай і цэнтральнай задачы **ня толькі выканаць, але і**

**перавыканаць устаноўленую плянам сярэднюю ўраджайнасьць—2,4 ц ільнавалакна з гектара, дабівацца якасьці ільнавалакна ня нішэй дзесятага нумару ў сярэднім па рэспубліцы, датэрмінова, не пазьней чым за месяц да вызначанага партыяй і ўрадам тэрміну, здаць (прадаць) высокаякасную ільнапродукцыю дзяржаве.**

Магчымасьці для выкананьня гэтай асноўнай і рашаючай задачы ў нас ёсьць. Усё залежыць ад таго, як партыйныя, савецкія і зямельна-колгасныя організацыі організуюць сваю работу, ад таго, наколькі сярод колгасьнікаў і аднаасобнікаў будзе разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва на пяршынства ў апрацоўцы і выкананьні абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай.

Такім чынам тэрміны апрацоўкі ільну і організацыя гэтай работы павінны забясьпечыць датэрміновае і поўнае выкананьне пляну паставак высокаякаснага ільнавалакна і трасты дзяржаве. Выходзячы з гэтага ў кожным сельсавеце і раёне трэба своечасова організаваць неабходную колькасьць мяльнасушыльных пунктаў. Кожны колгас і сельсавет (у адносінах аднаасобных гаспадарак) павінен распрацаваць каляндарны плян мяцьця, сушкі і трапаньня ільну з такім разьлікам, каб скончыць поўнасьцю апрацоўку ўсяго ўраджаю ў строга вызначаны тэрмін.

Практыка мінулага году сьведчыць аб

нездавальняючай рабоце сушыльна-мяльных пунктаў, што зьявілася адной з прычын зацяжкі выкананьня плянаў ільназагатовак.

Для таго, каб не дапусьціць паўтарэньня ганебнай практыкі мінулага году, у гэтым годзе мяльна-сушыльныя пункты павінны быць падрыхтаваны загадзя. Для гэтага неабходна абавязкова правесьці наступныя мерапрыемствы:

Устанавіць для кожнага мяльна-сушыльнага пункту раён яго дзейнасьці (колгасы, аднаасобныя гаспадаркі), забясьпечыўшы паўную нагрузку для кожнай ільнамялкі.

На кожным мяльна-сушыльным пункце трэба вылучыць адказнага таварыша з ліку колгаснага актыву, які павінен несьці поўную адказнасьць за становішча і работу мяльна-сушыльнага пункту. Дырэктары МТС і Райза павінны дасканальна праінструктаваць гэтых вылучаных таварышоў.

На непасрэднае правядзеньне сушкі ільну трэба вылучыць добра падрыхтаваных колгасьнікаў, знаёмых з сушкай, каб не дапусьціць псаваньня ільнатрасты. Цікавы расказ т. Зіноўева з колгасу «Знамя коммуны», Бежыцкага раёну, друкуе «Правда» ў нумары за 26 чэрвеня. Зіноўеў піша:

> «Усякага ільну давялося мне на сваім вяку сушыць. І мокрага, і сухога. На сваёй сушылцы даваў я ў адзін прыём

па 200 кг чыстага трапанага ільну. Як я працую? Перш-на-перш пільна сочыш за печкай. Пакуль печка ў гумне награецца—драмаць некалі. Поўнасьцю гумно нагружаць трэба ільном. Можна мяшаць сыры і сухі. Толькі сыры лён трэба рассадзіць па сьценках, бо там большая гарачыня, і лён разам з сухім высыхае.

Як нагрэеш печку дастаткова, так гумно і зачыняеш. Толькі вакенцы зачыняць нельга, каб пара выходзіла. Калі пары няма, — уся вышла, — значыць зачыняй. Калі раней часу зачыніш вакенцы ў гумне,—лён абавязкова спаліш. Праходзіць 5—6 гадзін—разумееш, што лён павінен быць гатоў. Вымеш пучок, паглядзіш. Так робіш некалькі разоў.

Звычайна я сухі лён сушу за 6 гадзін. Мокры—паўсутак.

Самае важнае для сушыльшчыка—правільна даведацца ў гумне тэмпэратуру. У нас у гумнах-жа градусьнікаў няма. Прыдзеш, падымеш уверх руку і адчуеш, што паліць,—значыць даволі тапіць.—Калі прахладзец, то прыходзіцца і плашку падкінуць.

Выключную ўвагу трэба зьвярнуць на **якасьць апрацоўкі ільнатрасты.** Для гэтай мэты ў кожным колгасе трэба організаваць

дасканальны контроль за якасьцю апрацоўкі трасты, устанавіць абавязковую прыёмку абтрапанага ільну ад кожнага трапальшчыка, павышаючы ацэнку працадня тым трапальшчыкам, якія даюць больш высокую якасьць ільнавалакна і, наадварот, паніжаць ацэнку працадня тым трапальшчыкам, якія даюць нізкую якасьць ільнавалакна з добрай трасты.

VII пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б завастрыў ўвагу на пытаньнях якасьці ільну, абавязаўшы адпаведныя організацыі ўстанавіць прыёмку работ у кожным колгасе старшынёй колгасу або спэцыяльна вызначанай комісіяй у такіх процэсах работ, як церабленьне, абмалот і ачос, расьсцілка і замочка, мяцьцё і трапаньне.

Пленум, кіруючыся неабходнасьцю рашучага паляпшэньня якасьці апрацоўкі ільну, даў наступнае прамое ўказаньне:

> «Канчатковую прыёмку работ праводзіць у залежнасьці ад колькасьці і якасьці ўраджаю і здаваемай па контрактацыйных дагаворох продукцыі па кожнай брыгадзе. Абавязаць праўленьні колгасаў пры прыёмцы работ рабіць скідкі з агульнай колькасьці працадзён, выпрацаваных брыгадай, у тым ліку і брыгадзірамі, у разьмеры 20 проц. за дрэннае выкананьне работ па ільну і

канаплях, з аднačасовым павялічэньнем у тых-жа разьмерах (да 20 проц.) той брыгадзе, якая добра выканала ўсе работы па ільну і канаплях. Пры ўстанаўленьні скідак і павялічэньні працадзён абавязкова ўлічваць правільнае і своечасовае правядзеньне ўборкі і іншых культур».

Для атрыманьня лепшай якасьці ільнапродукцыі вялікае значэньне набывае сартаваньне.

Паводле рашэньня VII пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б патрэбна правесьці:

а) «асобнае церабленьне розных па якасьці саломкі вучасткаў ільну і канапель з далейшай асобнай апрацоўкай ураджаю гэтых вучасткаў;

б) снаповае сартаваньне ільну перад абмалотам;

в) сартаваньне трасты пасьля пад'ёму са сьцелішчаў, або выемкі з мачыльняў і сушылак;

г) сартаваньне валакна пасьля трапаньня».

Для правядзеньня сартаваньня саломы, трасты і валакна неабходна ў кожнай брыгадзе вылучыць найбольш вопытных калгасьнікаў і калгасьніц. З цэнтральнага апарату на час расьсьцілкі і мочкі, а таксама

мяцьця і трапаньня павінны быць накіраваны ў дапамогу больш буйным колгасам адпаведныя спэцыялісты.

У кожным колгасе нам неабходна дабіцца такой арганізацыі работы, каб **лепшая работа, лепшыя ўзоры апрацоўкі ільну былі шырока вядомы астатнім колгасьнікам, якія-б усямерна імкнуліся па гэтых прыкладах раўняцца.**

Гэтага можна дасягнуць толькі пры той умове, калі **социялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва будзе штодзенным мэтодам работы.** За гэта павінна біцца кожная колгасная ячэйка, партгрупа, кожны комуніст і комсамолец. **Карысны і каштоўны пачын зрабілі комсамольцы комуны «Прогрэс» Лёзьнянскага раёну.** Яны дасканала распрацавалі ўсе пытаньні ўборкі, апрацоўкі ільну і ўзялі на сябе цэлы рад конкрэтных абавязацельстваў па аўладаньні тэхнікай ільняной справы, апрацоўцы ільну і здачы продукцыі дзяржаве. Яны зьвярнуліся з адозвай да ўсіх комсамольцаў БССР з прапановай узяць усяму ЛКСМБ шэфства над ільном, а таксама прад'явілі рад конкрэтных патрабаваньняў да спэцыялістаў у галіне шырокага ўкараненьня агротэхнічных ведаў.

Пачын комсамольцаў Лёзьнянскага раёну падхоплен ужо значнай колькасьцю комсамольскіх ячэек. Адгукнуліся і спэцыялісты, узяўшы на сябе таксама конкрэтныя абавя-

зацельствы. Гэты карысны пачын трэба пашырыць значна больш у комсамольскай організацыі і ва ўсіх колгасах.

**Цэнтральнае месца ва ўборцы і апрацоўцы ільну належыць колгасьніцы.** Між тым, у значнай частцы колгасаў мы маем недаацэнку ролі колгасьніцы. У прыватнасьці мала зьвяртаецца ўвагі на такія мерапрыемствы, якія павінны стварыць лепшыя ўмовы для ўцягненьня жанчын-колгасьніц у работу па апрацоўцы ільну (організацыя грамадзкага харчаваньня, дзіцячых садоў, ясьляў і інш.). З такімі зьявішчамі недаацэнкі трэба рашуча змагацца.

Мы маем тысячы колгасьніц-ударніц, якія паказваюць узоры сапраўды соцыялістычных адносін да працы, маюць вельмі каштоўныя навыкі і спэцыялізацыю ў галіне ільнаводства. Між тым, паказ работы такіх колгасьніц-ударніц у нас організаваны дрэнна. Гэта няправільна. Такое ўпушчэньне трэба неадкладна выправіць.

Трэба, каб такія колгасьніцы былі шырока вядомы ва ўсіх колгасах (тут асабліва адказная задача ўскладаецца на нашы газэты), каб на іх вопыце і навыках вучыліся астатнія, менш ведаючыя справу ільнаводзтва, колгасьнікі і колгасьніцы.

Організацыя грамадзкага харчаваньня, ясьляў, дзіцячых садоў і ўсіх іншых мерапрыемстваў, якія палягчаюць уцягненьне колгась-

ніц у колгасную працу, павінны стаць першачарговай задачай кожнага колгасу і колгасьніка.

Нам трэба дабіцца таго, каб кожная колгасьніца лічыла сваім гонарам працаваць так, як працуе, напрыклад, колгасьніца-ўдарніца Капытава колгасу «Авангард», Калышанскага сельсавету, Лёзьнянскага раёну. І ня толькі так працаваць, а яшчэ лепш. Вось што расказвае т. Капытава:

> «Я ніколі ня верыла, каб у ліпені месяцы лён дасягнуў-бы такой вышыні, якім ён зьяўляецца зараз у нашым колгасе, мясцамі 1 **м** 20 **см.** Будучы аднаасобніцай я ніколі такога лянку ня бачыла.
>
> Зараз перад намі, жанчынамі, стаіць адказная задача. Своечасова і бяз страт правесьці церабленьне ільну на плошчы 51,85 **га.** Да ўборкі мы ўжо даўно падрыхтаваліся. Церабленьне ільну пачнем, калі ён толькі стане жаўцець. Ня будзем чакаць, пакуль лён увесь стане васковага колеру.
>
> У гэтым годзе мы ўбярэм лён за 6—7 дзён. Мы ўжо падабралі сьцелішчы. Слаць будзем па лугох і канюшынішчы. Расьсьцілаць лён трэба тонкім слоем, тады ён хутчэй вылежваецца. Жнівень месяц самы добры для лежкі. У гэтым

месяцы лежка працягваецца ня больш 2—3 тыдняў.

Сама я ў часе апрацоўкі ільну працую трапальшчыцай. Гэта—адказная работа. Лён трэба трапаць умела і акуратна. Трапаць неабходна так: перш за ўсё пачынаем трапаць з галовак, тады і камель атрымліваецца вельмі добры і кастра сама выпадае з лянку. Вострая трапалка псуе валакно,—яна павінна быць паўвострая.

У мінулым годзе я з гэтай работай спраўлялася ня горш за астатніх і лічылася ўдарніцай, выпрацоўвала ў дзень 16—17 кг. Працавала аддана, добра, прагулаў і спазьненьняў на работу ня мела. Інакш нельга, так толькі і трэба працаваць. **Гэта ўсё для нас саміх, для нашай роднай дзяржавы, для нашага заможнага колгаснага жыцьця».**

**Посьпех барацьбы за высокі ўраджай ільнапродукцыі залежыць ад правільнай арганізацыі працы па ўборцы і апрацоўцы ільну.** Вышэй мы ўжо адзначалі, што існуючае становішча з арганізацыяй працы ўсё яшчэ дрэннае.

Асноўнае, чаго трэба дабіцца—гэта **далейшага ўмацаваньня сталай вытворчай брыгады ў колгасе, ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі і сапраўднага ўвядзеньня зьдзель-**

**шчыны, правільнай расстаноўкі сіл унутры брыгады пры правядзеньні ўборкі, апрацоўкі ільну і выкананьні плянаў здачы (продажу) дзяржаве ільнапродукцыі па контрактацыйных дагаварох, поўнага і правільнага скарыстаньня машын, выкананьня ўсіх агротэхнічных мерапрыемстваў па ільну і поўнага зьніштажэньня страт.**

Усе процэсы ўборкі і апрацоўкі ільну павінны праводзіцца той сталай паляводчай брыгадай, якая пасеяла лён. У тых выпадках, калі ільну пагражае перастой ці пералежка, праўленьне колгасу павінна павялічыць склад данай брыгады, але ні ў якім разе не дапускаць лішкаў рабочай сілы ў брыгадзе.

Сталая колгасная брыгада павінна вылучацца і пры пастаўцы ільнапродукцыі дзяржаве. Нам трэба организаваць справу так, каб на прыёмачным пункце была яскрава відаць продукцыя ня толькі колгасаў, але і колгасных брыгад. Трэба дабіцца абавязковага прэміяваньня брыгад, якія здалі лепшую продукцыю дзяржаве.

Важнейшай справай у організацыі працы— гэта **нормы выпрацоўкі.** Яны павінны быць такімі, якія-б больш садзейнічалі павышэньню тэмпаў і якасьці работы ў галіне льнаводства. З гэтага пункту гледжаньня яны павінны быць перагледжаны і там, дзе ўстаноўлены пераўменшаныя, адменены.

Згодна рашэньня пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б ствараецца прэміяльны фонд для прэміяваньня перадавых колгасаў, брыгад і колгасьнікаў, узорна арганізаваўшых апрацоўку ільну і даўшых высокую якасьць ільнавалакна. Нам трэба арганізаваць спаборніцтва паміж колгасамі, брыгадамі і колгасьнікамі на права атрыманьня прэміі за лепшую ўзорную работу і лепшыя яе рэзультаты.

Вялікую ролю ў справе лепшай арганізацыі колгаснай працы павінна адыграць паніжэньне і павышэньне ацэнкі працадня ў залежнасьці ад якасьці выконваемай работы.

Разгортваючы работу па ўборцы, апрацоўцы і здачы дзяржаве ільну, нельга забываць і аб такой важнейшай культуры, як **каноплі.** СНК СССР і ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 16 чэрвеня ўказваюць наступнае:

> «Адзначаючы зусім нездавальняючую работу над каноплямі, культурай, маючай вялізарнае гаспадарчае значэньне, Саўнарком Саюзу ССР і ЦК УсеКП(б) патрабуюць ад партыйных і савецкіх арганізацый канаплянных раёнаў забясьпечыць сваячасовую і поўную выбарку поскані (да канца цьвіценьня), правядзеньне барацьбы са школьнікамі і такую арганізацыю справы замочкі канапель, пры якой кожнай МТС і колгасу

было-б дадзена ў адпаведнасьці з умовамі раёну пэўнае заданьне па замочцы максымальна магчымай колькасьці канапель з восені».

Гэтае конкрэтнае ўказаньне партыі і ўраду павінна быць цалкам і поўнасьцю выканана.

## Якія ўрокі загатовак мінулага году трэба ўлічыць зараз

Датэрміновае выкананьне пляну ільназагатовак патрабуе выключна баявой і напружанай работы з боку партыйных, савецкіх і загатоўчых організацый.

Адной з рашаючых умоў пасьпяховага выкананьня пляну зьяўляецца ліквідацыя самацёчных настрояў, якія маюць месца сярод паасобных работнікаў і організацый. **Дабіцца посьпеху ў датэрміновым выкананьні пляну ільназагатовак мы зможам пры той умове, калі настроям самацёку, заспакаеньня і дэмобілізацыі з боку партыйных організацый будзе дан самы рашучы і бязьлітасны адпор.** Самацёк зараз, як ніколі можа загубіць усю справу—сарваць выкананьне пляну ільназагатовак.

Веснавая сяўба ільну ў гэтым годзе і становішча падрыхтоўкі да апрацоўкі і загатовак гэтай важнейшай для БССР культуры сьведчыць аб зусім недастатковым уліку ганебных урокаў ільназагатовак мінулага году.

Што паказалі загатоўкі наогул і ільну ў прыватнасьці ў мінулым годзе?

Вопыт загатовак мінулага году паказаў, што партыйныя і савецкія арганізацыі праявілі гніла-лібэральныя адносіны да загатовак, сарваўшы ўсе тэрміны выкананьня. У радзе арганізацый адсутнічала бязьлітасная і рашучая барацьба з кулацкім сабатажам, з перараджэнцамі і кулацкімі агентамі ў радох партыі і з іншымі антысавецкімі элемэнтамі, якія сваю дзейнасьць прыкрываюць фальшыва-нацыянальным флагам.

Бальшавіцкія ўказаньні ЦК УсеКП(б), якія рашуча выкрылі прычыны адставаньня БССР у загатоўках, конкрэтныя і опэрацыйныя меры на аснове ўказаньняў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР, прынятыя з боку ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало, забясьпечылі на адпаведным этапе пералом у загатоўках мінулага году. Аднак, дрэнны ход падрыхтоўкі да загатовак у гэтым годзе сьведчыць аб тым, што ганебныя ўрокі і практыка мінулага году яшчэ ў дастатковай ступені ня ўлічаны многімі партыйнымі і савецкімі арганізацыямі БССР. Гэта-ж сьведчыць і **аб наяўнасьці неконкрэтнасьці і дэклярацыйнасьці ў рабоце раду арганізацый.**

Вось чаму ўрокі і практыка загатовак мінулага году павінны быць дасканальна ўлічаны цяпер для таго, каб ні ў якой меры не

дапусьціць хоць-бы малейшага паўтарэньня недахопаў і памылак.

Ільназагатоўкі мінулага году паказалі, што пытаньнямі ільну, як адной з вядучых культур у БССР, асабліва на такім рашаючым **этапе, як апрацоўка, партыйныя і савецкія арганізацыі займаліся зусім недастаткова.** У лепшым выпадку займаліся пасевам, а такія рашаючыя мерапрыемствы, як расьсцілка, мочка, сушка, мяцьцё, трапаньне, якія галоўным чынам вызначаюць якасьць ільнапродукцыі ў пераважнай большасьці раёнаў былі аддадзены самацёку.

У мінулым годзе мы мелі вялізарнейшую колькасьць фактаў пералежкі ільну, несвоечасовай расьсцілкі, а ў значнай частцы раёнаў і фактаў прамога шкодніцтва ў ільнаводзтве (здача гнілой трасты, скарыстаньне трасты для подсьцілу жывёле і інш.). Кулацка-шкодніцкія элемэнты ў колгасах, карыстаючыся недастатковай клясавай пільнасьцю паасобных партячэек і комуністаў, шмат нашкодзілі ў справе ільнаводзтва.

Загатоўкі паказалі і тое, што пытаньнямі аўладаньня тэхнікай ільнаводзтва вясковымі комуністамі і ў першую чаргу ільнаводных раёнаў партыйныя арганізацыі не займаліся. Гэта таксама зьяўляецца адной з прычын шкодніцтва ў ільнаводзтве.

Практыка работы мінулага году сьведчыць аб **выключна нездавальняючай** рабоце зага-

**тоўчага апарату.** Апарат Загатільну аказаўся ў радзе сваіх зьвеньняў і вельмі часта непасрэдна ў нізавым зьвяне—прыёмачным пункце—засьмечаным б. гандлярамі, кулакамі і рознымі антысавецкімі элемэнтамі. Гэтыя элемэнты не сядзелі склаўшы рукі, а праводзілі яўна шкодніцкую работу.

Загатоўчы апарат аказаўся няздольным па-бальшавіцку арганізаваць справу ільнанарыхтовак: работа на прыёмачным пункце была арганізавана дрэнна, ільназдатчыкі не абслугоўваліся,—яны гадзінамі прастойвалі на пунктах, чакаючы сваёй чаргі для здачы продукцыі. Было шмат злоўжываньняў: абмерваньне, абвешваньне і інш.

Адной з распаўсюджаных форм шкодніцтва ў ільнаводзтве ў мінулым годзе было масавае складаньне актаў аб «прапажы» ільну. Такія зьявы мелі месца ў такіх раёнах, як Сеньненскі, Сурaскі, Сіроцінскі і інш. Складаліся акты аб «прапажы» ільну для таго, каб утоіць лён ад дзяржавы, разбазарыць яго. Пры праверцы аказвалася, што тыя колгасы, у якіх па актах лічылася стопроцантная прапажа ільну, бяз усякага напружаньня могуць поўнасьцю выканаць пляны ільназагатовак.

Улік адмоўных бакоў у практыцы ільназагатовак мінулага году зьяўляецца першай і элемэнтарнай неабходнасьцю для пасьпяховага правядзеньня ільназагатовак у гэтым годзе.

## Як трэба змагацца за датэрміновае выкананьне пляну ільназагатовак

Вышэй мы ўжо падкрэсьлівалі, што ўмовы гэтага году даюць поўную магчымасьць выканаць плян ільнапенькazагатовак на месяц раней устаноўленага партыяй і ўрадам тэрміну.

Партыйныя і савецкія арганізацыі павінны разгарнуць сапраўды бальшавіцкую масава-растлумачальную і арганізацыйную работу сярод колгасьнікаў і асабліва сярод колгасьніц і аднаасобнікаў пад лёзунгам датэрміновага выкананьня плянаў ільназагатовак. Масава-арганізацыйная работа павінна быць падпарадкавана таму, каб БССР заняла адно з першых месц у Савецкім саюзе па якасьці і тэрмінах выкананьня пляну ільназагатовак.

Магчымасьці для дасягненьня гэтай мэты ёсьць, тым больш, што згодна пастановы ЦК УсеКП(б) у большасьці МТС і саўгасаў арганізаваны палітаддзелы, якія з першых-жа дзён сваёй работы паказалі сапраўды бальшавіцкае ўменьне арганізаваць масы ў барацьбе за пасьпяховае правядзеньне веснавой сяўбы, паказалі сябе лепшымі арганізатарамі і кіраўнікамі колгасных мас у справе ўмацаваньня колгаснага будаўніцтва і барацьбе супроць кулацкіх, шкодніцкіх, опортуністычных элемэнтаў на вёсцы.

Наша задача—дабіцца абавязковага выкананьня наступнай пастановы VII пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б:

> «Паставіць перад партыйнымі і савецкімі організацыямі задачай—дабівацца выкананьня пляну ільнапенькazaгатовак на месяц раней устаноўленага партыяй і ўрадам тэрміну.
>
> Устанавіць адказным за сваячасовую здачу колгасамі на загатоўчыя пункты ільну і канапель—старшынь колгасаў».

Перадавыя колгасы рэспублікі ўзялі на сябе рад конкрэтных абавязацельстваў па датэрміновым выкананьні пляну ільназагатовак высокаякаснай продукцыі і разгарнулі сапраўды бальшавіцкую падрыхтоўку да выкананьня гэтых абавязацельстваў. **Множыць прыклады перадавых**—вось неадкладная задача. Трэба каб прыкладу перадавых колгасаў сьледвалі ўсе іншыя колгасы і аднаасобнікі.

Заклік Бежыцкага Райкому, політаддзелу МТС і райвыканкому знайшоў свой водгук у радзе колгасаў БССР. Вось, напрыклад, колгасьнікі колгасу імя Дзяржынскага, Кушлікоўскага с.-с., Полацкага раёну ў сваім пісьме, расказваючы аб тых дасягненьнях, якіх яны дабіліся ў барацьбе за лён, пішуць наступнае:

«Усё гэта дае магчымасьць выканаць наступныя абавязацельствы, якія мы бярэм на сябе ў адказ на пісьмо бежыцкіх колгасьнікаў-ільнаводаў:

**дабіцца таварнага выхаду ільнавалакна з гектару ня менш як тры ц.** Гэтым мы выконваем ня толькі абавязацельства, узятае перад бежыцкімі колгасьнікамі, але і соцдагавор, заключаны ўвесну з колгасамі Замшанскага с/с. На сёньня мы павінны атрымаць ня менш 3—3,5 **ц з га.**

Згодна контрактацыйнаму дагавору **мы павінны даць дзяржаве ільнавалакно якасьцю ў 8 нумароў. Мы ставім сустрэчны,—ня ніжэй у сярэднім 10 нумару.** Для таго, каб убраць увесь лён у пэрыодзе васковай сьпеласьці, што бясспрэчна абумоўлівае якасьць — **мы абавязваемся правесьці ільнаўборку за 7 дзён.**

Насеньне ільну мы абмалоцім і здамо да 20 жніўня, але просім раённыя арганізацыі дапамагчы нам набыць ільнамалатарню «Эдзі», якая нам неабходна. Ільнавалакно і трасту мы абавязваемся здаць (прадаць) дзяржаве не пазьней Кастрычніцкіх сьвят.

Такія абавязацельствы мы ўзялі на сябе ў адказ на пісьмо бежыцкіх ільнаводаў. Гэтыя абавязацельствы пад кі-

раўніцтвам РК КП(б)Б і нашай парторганізацыі мы выканаем чаго-б гэта ні каштавала. Мы выклікаем пасьледаваць нашаму прыкладу ўсе колгасы нашага раёну і спаборнічаючай з намі ільнаводчай Дрысеншчыны».

Усебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў таксама ўзяў на сябе рад конкрэтных абавязацельстваў у галіне дасягненьня высокай ураджайнасьці ільну і датэрміновай пастаўцы ільнапродукцыі дзяржаве.

Зьезд у сваёй адозьве кажа наступнае:

«Праз пару тыдняў пачнецца ўборка, церабленьне звышраньняга ільну і сьледам за гэтым масавае церабленьне. Усебеларускі зьлёт колгасьнікаў-ударнікаў прымае выклік колгасьнікаў Бежыцкага раёну СССР і ўключаецца ў соцыялістычнае спаборніцтва ільнаводных раёнаў Саюзу. Зьезд заклікае ўсіх колгасьнікаў і аднаасобнікаў пачаць церабленьне ільну ў яго раньняй жоўтай сьпеласьці пазсобнымі вучасткамі, не чакаючы пасьпяваньня ўсяго масыву, і скончыць церабленьне на працягу 8—10 рабочых дзён. Забясьпечым выхад ня менш 2,4 **ц** валакна з **га.** Даб'ёмся сорту ільнавалакна ня ніжэй 10-га нумару. Скончым абмалот праз 5—7 дзён пасьля церабленьня і забясьпечым

> неадкладную добраякасную расьсьцілку. Датэрмінова здамо трасту і валакно дзяржаве».

Колгас «Ударнік», Александрыйскага сельсавету, Шклоўскага раёну ў сваім пісьме да ўсіх колгасьнікаў БССР піша таксама наступнае:

> **«Наша першая запаведзь—першы сноп ільну—дзяржаве.**
>
> **Мы абавязваемся да 1-га верасьня цалкам выканаць контрактацыйны плян па здачы ільнанасеньня дзяржаве, трасту і валакно здамо не пазьней 30 кастрычніка.** Гэты тэрмін намі будзе выкананы, будзем здаваць адразу з поля, не завозячы ў сьвірны.
>
> Мы заклікаем вас, усіх колгасьнікаў, арганізаваць масавыя абозы з ільном, ільнанасеньнем.
>
> Соцыялістычная прамысловасьць павінна хутчэй атрымаць патрэбную ёй ільнасыравіну».

Заклік колгасу «Ударнік» павінен быць шырока абмеркован ва ўсіх колгасах БССР з тым, каб узьняць хвалю конкрэтнай бальшавіцкай барацьбы **за першачарговае і датэрміновае выкананьне абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай.**

Падрыхтоўка да ільназагатовак павінна быць распачата зараз-жа і самымі баявымі тэмпамі. Гэтую работу неабходна арганізаваць так, каб усе арганізацыі, і ў першую чаргу, загатоўчыя, былі да пачатку непасрэдных загатовак падрыхтаваны поўнасьцю.

Вось чаму такія мерапрыемствы, як сканчэньне рамонту і пабудова прыёмачных баз па ільну і ільнанасеньню, укамплектаваньне прыёмачных пунктаў адпаведным складам працаўнікоў (прыёмшчыкаў і сартоўшчыкаў), сканчэньне рамонту і пабудова ільназаводаў, поўная падрыхтоўка ільназаводаў да прыёму ільнатрасты (ачыстка і рамонт шох, ачыстка заводзкіх двароў ад сьмецьця і нягоднай ільнатрасты мінулых гадоў) і інш. конкрэтныя мерапрыемствы, намечаныя VII пленумам ЦК і ЦКК КП(б)Б—набываюць у справе падрыхтоўкі да ільназагатовак выключна важнае значэньне. За выкананьне гэтых мерапрыемстваў трэба ўзяцца неадкладна і рашуча.

Згодна пастановы партыі і ўраду **ільназаводы абавязаны даць у гэтым годзе больш высокаякасную продукцыю.** Гэта абавязвае мясцовыя партыйныя і савецкія організацыі больш дапамагчы ільназаводам. Выкананьне дырэктывы аб палепшэньні якасьці продукцыі ільназаводаў немысьліма таксама і без жывой непасрэднай сувязі саміх работнікаў ільназаводаў з колгасамі і вёскамі. Працаў-

нікі ільназаводаў павінны часьцей бываць у вёсках і колгасах, дапамагчы лепш арганізаваць расьсьціл, з тым, каб на ільназаводы траста паступала больш дабраякасная.

Пленум абавязаў асаблівую ўвагу зьвярнуць на абслугоўваньне ільназдатчыкаў. У сваёй пастанове ён запісаў наступнае:

> «Пленум зьвяртае ўвагу Загатільну і РК КП(б)Б на неабходнасьць устанаўленьня самага ўважлівага культурна-бытавога абслугоўваньня ільназдатчыкаў (абсталяваньне чайных, чытален і т. д.)».

Пастанава пленуму ЦК і ЦКК аб устанаўленьні адпаведных стандартаў валакна і трасты таксама мае вялікае значэньне ў справе атрыманьня лепшай якасьці ільнапродукцыі. **Задача паляпшэньня якасьці ільнапродукцыі** зьяўляецца першачарговай. Вось чаму пленум ЦК і ЦКК зусім правільна ў сваёй пастанове па пытаньнях ільну прыняў наступны пункт:

> «Абавязаць Упаўкомзаг СНК, Загатлён, Белільнатрактарацэнтр і РВК устанавіць асаблівы кантроль за якасьцю паступаючай на заводы трасты, рашуча дабіваючыся павялічэньня выхаду доўгага валакна з турбіннага сырцу, поўнасьцю забараніўшы прыёмку трасты і саломы,

не адпавядаючай умовам контрактацыйных дагавароў.

Устанавіць, як правіла, першачарговы адбор з ураджаю лепшай трасты і саломы для здачы на заводы, згодна контрактацыйных дагавароў».

Практыка мінулага году, як мы адзначалі вышэй, паказала тое, што апарат Загатільну быў вельмі слабым у правядзеньні ільназагатовак і засьмечан клясава-варожымі элемэнтамі. Становішча ў параўнаньні з мінулым годам зьмянілася нязначна. Выходзячы з гэтага, VII пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б даў адпаведную ацэнку рабоце апарату Загатільну і наступныя ўказаньні:

«Пленум лічыць абсолютна нездавальняючым становішча апарату Загатільну зьверху да нізу: апарат не перабудаван і зусім не падрыхтаван да загатоўчай кампаніі і значна ў радзе зьвеньняў засьмечан чуждым элемэнтам.

Пленум абавязвае Загатлён, пад пэрсональную адказнасьць т. Вайновіча, і райкомы КП(б)Б прыняць усе меры да перабудовы апарату Загатільну, ачысьціць яго ад клясава-варожых элемэнтаў з тым, каб Загатлён да пачатку загатоўчай кампаніі быў поўнасьцю падрыхтован і здольны справіцца з ускладзенымі на яго задачамі.

Пленум лічыць неабходным правесьці вылучэньне групы колгасьнікаў-ударнікаў для работы на прыёмачных пунктах».

Задача датэрміновага выкананьня ільнанарыхтовак павінна быць шырока растлумачана сярод ўсіх колгасьнікаў і аднаасобнікаў. Яе выкананьню трэба падпарадкаваць усю масава-палітычную і арганізацыйную работу. У прыватнасьці безадкладна павінна быць растлумачана ў кожным колгасе пастанова **аб забароне стварэньня ўсялякіх фондаў і разьмеркаваньня ільну і канапель да поўнага выкананьня колгасам сваіх абавязкаў па контрактацыйнаму дагавору.** Зусім ясна, што кулацкія і іншыя антысавецкія элемэнты будуць імкнуцца распальваць спажывецкія імкненьні і настроі па прынцыпу «спачатку сабе, а рэшткі дзяржаве». Гэтым настроям павінна быць проціпастаўлена масава-растлумачальная работа і **бязьлітасны адпор спробам сарваць выкананьне колгасьнікамі і аднаасобнікамі сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай.**

У адносінах контрактантаў, недабрасумленна выконваючых свае абавязкі па контрактацыйных дагаварох альбо зрываючых іх выкананьне, павінны ўжывацца мэтоды прымусовага ўзьдзеяньня.

Вялікае значэньне для стымуляваньня працы колгасьнікаў мае пастанова пленуму аб тым, каб разьмеркаваньне атрыманага па контрактацыі збожжа, алею і 80 проц. прамтавараў праводзіць паміж колгасьнікамі, якія фактычна працавалі па сяўбе, праполцы, уборцы і апрацоўцы ільну і канапель, у залежнасьці ад колькасьці і якасьці іх работы. Гэтае ўказаньне неабходна ажыцьцявіць поўнасьцю, не дапускаючы ніякіх адхіленьняў.

Практыка загатоўчай работы мінулага году паказвае, што там, дзе праводзілася сыстэматычная работа з колгасным актывам, лепш, чым у астатніх мясцох выконваліся пляны ільназагатовак і больш рашуча быў зламан кулацкі саботаж. У прыватнасьці, пасьпяховае выкананьне плянаў загатовак аднаасобнымі гаспадаркамі ў значнай меры залежыць ад работы членаў сельсаветаў і комісій садзейнічаньня і іх прыкладнасьці ў выкананьні сваіх контрактацыйных дагавароў.

Адной з прычын пасьпяховага правядзеньня сяўбы зьяўляецца згуртаваньне колгаснага актыву вакол партыйных організацый. **Пасьпяховая організацыя і правядзеньне загатовак будзе значна залежаць ад таго, наколькі партыйныя організацыі разгорнуць і будуць праводзіць сыстэматычную работу з колгасным актывам.**

Таму зараз напярэдадні непасрэднага разгортваньня ільназагатовак неабходна праводзіць сыстэматычную работу з колгасным актывам, мобілізуючы яго на датэрміновае выкананьне колгасьнікамі і аднаасобнікамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай па ільну.

**Масава-політычная і організацыйная работа—вось асноўны мэтод правядзеньня загатовак.** Асноўны напрамак масава-політычнай работы—датэрміновае выкананьне колгасамі і аднаасобнікамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай па здачы с.-г. продукцыі.

VII пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) абавязаў:

> ... «усе партыйныя і савецкія організацыі так паставіць масава-політычную і растлумачальную работу на вёсцы, каб кожны колгасьнік і аднаасобнік цьвёрда зразумелі, што ад іх работы па пасьпяховым завяршэньні рэзультатаў сяўбы і ўборачнай кампаніі залежыць уздым узроўню іх жыцьця, што ўсе без выключэньня колгасы і колгасьнікі пры пасьпяховым завяршэньні сельскагаспадарчага году маюць усе магчымасьці, акуратна выканаўшы свае абавязацельствы перад дзяржавай па здачы сельгаспродукцыі, зрабіць вялікі крок уперад да выкананьня лёзунгу т. **Сталіна**—зрабіць усіх колгасьнікаў заможнымі».

* * *

Недабіты кулак, нявыкрыты шкоднік і іншыя антысавецкія элемэнты, а таксама опортуністычныя элемэнты будуць аказваць шалёнае супраціўленьне датэрміноваму выкананьню плянаў ільназагатовак.

Таму неабходна, строга ўлічыўшы ўрокі мінулагодняй апрацоўкі ільну і ільназагатовак, рашуча ўзмоцніць бальшавіцкую клясавую пільнасьць і на аснове шырокага разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва весьці самую бязьлітасную барацьбу з кулацкім саботажам і опортуністычнымі элемэнтамі.

Кулацкія і іншыя антысавецкія элемэнты будуць імкнуцца псаваць і красьці лён. Абавязкова ўстанавіць **самы дасканальны ўлік і ахову ўраджаю ільну** пры ўсіх процэсах: уборцы, апрацоўцы і здачы (продажу) дзяржаве. За ўлік і ахову ўраджаю павінны несьці строгую пэрсанальную адказнасьць брыгадзіры і старшыні праўленьняў колгасаў, дырэктары заводаў, саўгасаў і МТС.

Узброеная вопытам барацьбы за выкананьне чарговых гаспадарча-палітычных задач, пад кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б) і правадыра партыі т. Сталіна, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало—парторганізацыя Беларусі павінна справіцца з важнейшай і ба-

явой задачай—за месяц да тэрміну, устаноўленага партыяй і ўрадам, выканаць плян ільназагатовак, вывесьці БССР у шарэнгу перадавых рэспублік Савецкага саюзу па выкананьні чарговых гаспадарча-палітычных задач, заваяваць пяршынства ў соцыялістычным спаборніцтве з Заходняй вобласьцю.

## АГІТАТАРЫ!

**Дасылайце свае заўвагі па адрасу:**

**Менск, рог вул. К. Маркса і Чырвонаармейскай, Сэктар палітагітацыі АМА ЦК КП(б)Б**

